Chvoraha synočka
Ciešyć zabaŭlaje.
Na ćviačku pavіešan
Načničok ubohi.
Paziraje ŭ vokny
Miesiačyk dvurohi.
Karahody zorak
Uhary mihajuć,
Na ziamli śniažynki
Sinim blaskam źziajuć.
Tak spakojna ŭsiudy,
I takaja ciša!
Chvoraje dziciatka
Tak nia roŭna dyša, —
Zabivaje kašal,
Nie daje spakoju.

* * * *

Śpi, majo dziciatka!
Śpi, majo luboje!
Nia pužajsia miły!
Boh śviaty z taboju...
Von pajšoŭ ty z chaty,
Sivy dzied z kulboju!
Vuń pajšoŭ dzied sivy,
Kryvicca i płača...
Uciakaj adhetul.
Uciakaj, biadača!

Voś jaki dzied hety —
Dumaŭ napałochać!
Budzieš usiu nočku
Na marozie vochać!
A nie chadzi ŭ chatu,
A nia leź ślapicaj! ...
Płač ciapier i mierźni
Dy nia budź durnicaj...

* * * *

O, Piatruś moj caca!
Lubim my Piatrusia:
Lubić jaho tata,
Lubić i matusia.
Kupić tata Piotru
Bociki na nožki,
Pojdzie moj synočak
Prakładać darožki!
Novuju kašulku
Ja tabie pašyju,
U vadzicy ciopłaj
Čyścieńka pamyju.
Budzieš ty charošy!
Ciotka nie paznaje,
“A čyj heta chłopčyk?”
Dziadźka zapytaje.
Usie dzivicca stanuć
I chvalić Piatrusia.

— Heta —ja, — ty skažaš: —
Ja — synok Gabrusiaŭ...

## Lis i žoraŭ

### 1) Krupnik

Niejak raz pasiabravali miž saboj lis i žoraŭ. Lis zaprasiŭ u hości žorava dy naliŭ jamu smačnaha krupniku na płytkuju talerku.

Stukaŭ, stukaŭ žoraŭ svajej doŭhaj dziubaj pa płytkaj talercy, a ŭ rot ničoha nie dastałosia. A lis u hety čas prysnaściŭsia, dy źlizaŭ uvieś hety krupnik dy j chvalić svaju stravu: — Voś dyk smačna! Voś ja rad, što pačastavaŭ ciabie hetkaj smačnaj stravaj. —

### 2) Piva

Na druhi dzień žoraŭ zaprasiŭ lisa ŭ hości. Jon navaryŭ smačnaha piva z miodu dy naliŭ jaho ŭ hładyšyk. Sam jon pje hetaje piva švajej doŭhaj dziubaj dy j prosie lisa: — Kali łaska, častujsia, susiedzie! —



A lis ablizvaje źvierchu hety hładyšak, bo jahonaja myza nia lezie ŭ vuzki hładyšyk.

Sam žoraŭ vypiŭ heta piva dy j kryčyć:

— Dabro piva! Dabro piva!...

### 3) Ptušaniaty

— Dziakuju za piva! — kaža lis. — Ale ja chacieŭ-by miasa pakaštavać. Kali łaska, susiedzie, pašukaj mnie hniozdaŭ z ptušaniatami. —

— Vuń, bač, u lesie na drevach poŭna ptušynych hniozdaŭ, — kaža žoraŭ. — Sadzisia mnie na plečy, dyk ja ciabie padymu da hniozdaŭ i ty tam budzieš vybirać ptušaniat, jakich sabie zachočaš. —

Lis sieŭ žoravu na plečy, i žoraŭ padniaŭ jaho až pad samyja chmary. U lisa ad strachu paciamnieła ŭ vačoch, dy j duch jamu zaniało. Lis nia ŭtrymaŭsia na plačoch u žorava dy j palacieŭ dałoŭ. A žoraŭ kryčyć na lisa:

— Kirujsia! Kirujsia! Kirujsia!..

Ale lis, padajučy dałoŭ, užo nia moh kiravacca na hniazdo, a valiŭsia prosta na doł, dy jak udaryŭsia ab pień, dyk i zabiŭsia.

# MIADŹVIEDŹ I SIELANIN

## 1) Repa

Całuju zimu miadźviedź spaŭ u svajim łahvie. Kali viasnoj pračnuŭsia j vylez z svajho łahva, dyk ubačyŭ, što niedaloka jahonaha łahva raściarebleny les, i čałaviek are pasieku. Miadźviedź pytaje:

— Našto ty, čałavieča, les pasiek, dy ziamlu areš? —

— Budu repu siejać, — kaža čałaviek.

— Dobra, siej, — kaža miadźviedź. — Ale jak my dzialić budziem? —

— A jak sabie chočaš, — adkazvaje čałaviek.

— Mnie buduć viarchi, a tabie karani, — kaža miadźviedź.

— Dobra! — skazaŭ čałaviek.

Pasiejaŭ čałaviek repu. Repa vyrasła vialikaja sakaŭnaja, smačnaja. Pad vosień čałaviek vykapaŭ repu. Jon nacinu abrezaŭ i pakinuŭ u lesie dla miadźviedzia, a repu zabraŭ damoŭ.

Miadźviedź paciahaŭ hetu nacinu da svajho łahva dy jeść jaje, kab da zimy naješci łoju, bo sytamu lahčej budzie zimu pieraspać. Paroju ŭ nacinie papadziecca maleńkaja repka, dyk

miadźviedź źješć jaje sa smakam, ablizvajecca dy złuje na čałavieka, što ašukaŭ jaho.

## 2) Mak

Na druhuju viasnu pračnuŭsia miadźviedź i vylez z svajho łahva, až bača, što jiznoŭ čałaviek are tuju samuju ziamlu. Jon i pytaje:

— A što ty, čałavieča, siejać budzieš? —

— Mak, — adkazvaje čałaviek.

— Sioleta, čałavieča, ty mianie nie ašukaješ! Sioleta ŭžo mnie buduć karani, a tabie viarchi, — kaža miadźviedź.

— Dobra! — kaža čałaviek.

Vyras dobry mak. Pad vosień sabraŭ čałaviek mak. Makoŭki siarpom paadrazaŭ dy zabraŭ damoŭ, a makoŭje złažyŭ u kuču dy pakinuŭ miadźviedziu. Miadźviedź pasprabavaŭ ješci heta makoŭje, až jano ćviardoje j horkaje. Jon sa złošci paraśkidaŭ toje makoŭje dy chudy j hałodny loh na zimu ŭ svajo łahvo.

## 3) Pšanica

Na treciuju viasnu pračnuŭsia miadźviedź dy chudy j hałodny vylez z svajho łahva, až bača, što jiznoŭ čałaviek na tym samym miejscy are. Jon i pytaje:

— A što ty budzieš siejać, čałavieča? —

— Pšanicu! — adkazaŭ čaławiek.

— Ty, čaławieča, dva razy mianie ašukaŭ, a ciapier užo nie ašukaješ, bo jak tolki ty pasieješ pšanicu, dyk ja ciabie źjem, — skazaŭ miadźviedź'.

Miadźviedź uźlez na kalosy, loh tam i čakaje pakul čaławiek pasieje pšanicu, kab tady jaho źješci.



## 4) Kałoda abharełaja

Miadźviedź bača, što da jich biažyć lis. Jon cicha šepča sielaninu:

— Kali lis budzie pytacca ŭ ciabie: "A što heta ŭ ciabie lažyć na vozie?" — dyk ty jamu adkažy: "Kałoda abharełaja!" —

Padbiahaje lis i pytaje ŭ sielanina:

— A što ŭ ciabie, čaławieča, lažyć na vozie?

— Kałoda abharełaja! — kaža sielanin.

— Kali-b heta była abharełaja kałoda, dyk-by jana była pryviazana viaroŭkami da voza, — skazaŭ lis dy pabieh ŭ les.

— Pryviažy mianie, čałavieča, viaroŭkami da voza! — šepča miadźviedź čałavieku.

Pryviazaŭ čałaviek miadźviedzia viaroŭkami da voza, a sam pajšoŭ arać.

Prybiahaje lis dy jiznoŭ pytaje:

— A što heta ŭ ciabie, čałavieča, lažyć na vozie, pryviazanaje viaroŭkami? —



— Kałoda abharełaja! — adkazvaje čałaviek.

— Kali-b heta była abharełaja kałoda, dyk-by ŭ jaje była ŭbita siakiera, — skazaŭ lis dy pabieh u les.

— Ubi ŭ mianie siakieru, čałavieča! — šepča miadźviedź čałavieku.

Uziaŭ čałaviek siakieru, dy jak siekanie miadźviedziu pa hałavie, dyk i zasiek.

# Альфабэт — кірыліца

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Аа | Бб | Вв | Гг | Ґґ | Дд |
| Ее | Ёё | Жж | Дж | дж | Зз |
| Дз | дз | Іій | Кк | Лл | Мм |
| Нн | Оо | Пп | Рр | Сс | Тт |
| Уу | Ўў | Фф | Хх | Цц | Чч |
| Шш | ы | ь | Ээ | Юю | Яя |

# Параўнаньне кірыліцы з лацінкай

а – a
б –b
в – v
г – h
ґ – g
д – d
е – je, (i)e
ё – jo, i(o)
ж – ž
дж – dž
з – z
дз – dz
і – i
й – j
к – k
л – l, ł
м – m
н – n
о – o
п – p
р – r
с – s
т – t
у – u
ў – ŭ
ф – f
х – ch
ц – c
ч – č
ш – š
ы – y
э – e
ю – ju, (i)u
я – ja, (i)a
ь – (‘)
‘ – ‘

# ПРАКТЫКАВАНЬНІ

## 1 – а, э, о, у, ы

| | | |
|---|---|---|
| За-ра | доб-ра | ма-ла-ды |
| ка-за | дым-на | жа-лу-ды |
| ва-га | шап-ка | ха-ла-ды |
| на-га | Ра-ман | ма-ла-ко |
| са-ла | дуд-ка | ра-бо-та |

У таты новы кажух.
Тут рэчка, а там паша.
Наш тата арэ.
Мама рэжа рэпу.
Наш Лыска сыты.
У Барбары брат Барыс.

*Наш кот сыты.*

## 2 – і

| | | | |
|---|---|---|---|
| Са-ні | ка-сі | ко-ні | тру-сі-кі |
| пі-ла | ві-лі | пі-шы | ву-сі-кі |
| сі-ла | ру-кі | пі-ра-гі | ку-пі-лі |

Тамаш піша тату ліст.
У Зосі сіні кафтанік.

Галіна мыла ногі.
Мы чыталі.
Наша мама лавіла рой.
За нашай хатай расла ліпа.

*Гэты шалік сіні.*

**З - я**

| | | |
|---|---|---|
| Вяс-на | дзя-га | дзя-куй |
| вяс-ло | зям-ля | бя-ро-за |
| вяд-ро | у-зяў | бя-ліз-на |

| | | | |
|---|---|---|---|
| Я-ма | ма-я | Ян-ка | яб-лы-на |
| я-на | яй-кі | Я-куб | доб-ра-я |

Ля варот ужо стаялі санкі.
Янка і Зося гулялі дома.
Каля хаты расла бяроза.
У нас салодкія яблыкі.
Пятрок злавіў яшчарку.
Марына мяла хату.

*Янка сячэ вяз.*

**4 - е**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Лес | печ | се-на | А-ле-на |
| ле-та | пе-на | се-лі | за-ме-на |
| ме-жы | пе-лі | сет-ка | ве-се-ла |
| Ем | е-жа | чу-е | па-е-лі |
| е-ду | е-ла | ел-кі | е-ха-лі |

Мы ехалі лесам.
У лесе шумелі асіны й ліпы.
У нашым лесе жылі ваўкі.
Валя нясе вянок і пяе.
У Рыгора белы голуб.

*Дзеці елі кашу.*

**5 – ь**

| | | |
|---|---|---|
| Буль-ба | Ан-тось | во-сень |
| пе-вень | Пят-русь | ба-буль-ка |

| | | |
|---|---|---|
| гуль-ні | Воль-га | сьпя-ва-лі |
| лось | ляль-ка | ель-нік |

Годзе, годзе, дзеткі, спаць.
Міхась, Міхась, лаві шапку.
Марыля зьбірала шчаўе.
Міхась і Алесь езьдзілі конна.
У Антося чорны конь.

## *Антось езьдзіў у лес*

**6 - ё**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Мёд | вёз | клён | цёп-ла |
| лёд | нёс | ця-лё | вёс-ка |
| лён | лёг | яг-нё | ка-зёл |
| Ён | сва-ё | тва-ё | ма-ёў-ка |
| ма-ё | чы-ё | ём-ка | зна-ё-мы |

У мяне ёсьць сшыткі.
Сымон павёў кароўку.
Мае сёстры: Дарота й Ганна.
Сем дзён маладзён.
Гэта наша вёска.

Які добры лён у нашай цётк.

*Ён жыў у вёсцы.*

**7 – ю**

| | | |
|---|---|---|
| Сю-ды | дзю-ба | ма-ню-ка |
| лю-дзі | лю-ль-ка | зя-зю-ля |
| лю-ты | ню-хаць | усю-ды |
| Шы-ю | Юль-ка | ма-лю-юць |
| се-ю | Юр-ка | бу-ду-юць |
| Ю-зік | чы-та-ю | гу-ля-ю |

Люлі-люлі, прыляцелі куры.
Юрка й Юля будуюць дамок.
Наста шыла кашулю.
Нашы вучні гадуюць трусоў.
Тата купіў новую кадушку.
Нашы людзі на полі.

*Юрка згубіў ключ.*

**8 – ’**

| | | | |
|---|---|---|---|
| П’ю | сям’я | куп’е | ве-раб’і |
| б’ю | Юр’е | пад’еў | із-рэб’е |
| аб’еў | пер’е | аб’я-ва | Мар’я-на |
| Зье-лі | зья-ва | зьезд | зье-хаць |

Наляцелі вераб’і
На бабіны канаплі.
А я таму вераб’ю
Кіем нагу пераб'ю.
А на тую ножку
Надзену панчошку.

*Наша сям’я п’е каву.*

## МАМА

Зосьцы было пяць гадкоў. Аднаго разу мама пашла на рынак ды ўзяла з сабой Зоську.

Зоська на рынку заблудзіла. Пачала яна плакаць. Абступілі яе людзі.

— Чыя-ж ты, дзяўчынка? — пытаюць людзі. Зоська маўчыць, бо ня ведае.

— А як завецца твая мама?

— Ня ведаю, — кажа Зоська.

— А якая-ж твая мама? — пытаюць яе.

— Мая мама лепшая за ўсіх, — адказала яна.

## У КУХНІ

Гэй, гэй, гоцкі, гоцкі!
Заскакалі ў гаршку клёцкі.
Ой, ня ліха ім жадаці,
Калі хочуць пагуляці
Гэй, шугі, шугі, — вось так!
Пашлі ў танцы ступа й гляк,
А таўкач узяўся ў бокі
Ды з качалкай пачаў скокі.
Пашоў венік з качарэжкай,
Апалонік з тоўстай дзежкай.
А місачка з гладышком,
Бляха йграе: Дзылін-бом!

## МЫШКА

Мышка вылезла з сваей норкі ды ўбачыла пастку. Яна падумала:

— Вось якія хітрыя гэтыя людзі. Яны паставілі пастку, паклалі ў яе падсмажанае сала ды думаюць мяне абхітрыць. Я добра ведаю, што толькі дакраніся да гэтага сала, дык дошка ўпадзе ды мяне заб'е. —

Вабіць сала мышку. Яна падыходзіць усё бліжэй і бліжэй.

— Кратаць-жа ня можна, а панюхаць, дык можна, — думае мышка. Яна выцягнула свае пыскі, каб добра панюхаць. Але зьнячэйку

дакранулася да сала. Дошка ўпала дый забіла мышку.

## ВОЎК І САБАКА

Неяк раз пасябравалі сабака з ваўком. І сабака запрасіў ваўка ў госьці.

— Як-жа табе жывецца? — пытае воўк .

— А нічагусенькі, добра, — адказаў сабака. — Яды хапае, сяды-тады й костачка дастанецца. Гаспадар мяне ня б'е, не выганяе. Можна жыць. Прыходзь да мяне. Разам будзе весялей. —

— А што гэта ў цябе на шыі? Нейкія плямкі? — пытае воўк.

— Гэта ад ланцуга поўсьць трохі выцерлася, — адказвае сабака.

— Ад ланцуга? Дык бывай здароў. Я не хачу ні тваіх костачак, ні ланцуга. —

Воўк утуліў хвост ды ходу ў лес.

## ПЕВЕНЬ

По надворку певень ходзіць,
За сабою куры водзіць
І крычыць: — Сюды, сюды!
Як кіўне ён галавою —
Сыплюць куры грамадою,
Як адна бягуць туды.
Калі-ж куры хто пужае,

Певень грозна загукае:
— Хто такі там? Хто такі?
Вось у сьвіран ён падаўся.
— Кыш! — адтуль хтось абазваўся.
— Хто такі тут? Хто такі?
Певень курачак частуе,
Гаспадара, бы ня чуе,
Кліча іх: — Сюды, сюды!
Гаспадар мятлу хапае, —
Гвалт наш певень падымае:
— Хто куды! Ой, хто куды!

## ВОЎК І КРУМКАЧ

Аднаго разу воўк і крумкач сілкаваліся здохлай каняцінай. Воўк удавіўся костачкай. Яна засела яму ў глытаўцы. Ляжыць воўк, разявіўшы ляпу, адкінуўшы галаву й хвост, ды чакае канца. Убачыў гэта крумкач і кінуўся ваўку на дапамогу. Ён усунуў сваю галаву ў воўчую ляпу ды сваёй моцнай дзюбай выцягнуў з глытаўкі костку. Воўк ачуняў.

Неяк раз зноў зышліся воўк з крумкачом. Крумкач успомніў ваўку, што ён некалі зрабіў яму вялікую ласку, калі выратаваў яму жыцьцё.

— Ты яшчэ важышся ўспамінаць мне аб сваю ласку? — кажа воўк. — Ты-ж тады з галавой быў ня толькі ў маіх зубох, але й у глытаўцы. Калі-б я

тады сьцяў зубы, дык твае вочы ўжо болей не аглядалі-б сьвету, а язык не плявузґаў-бы гэткай брыды. Каб ты мне служыў увесь свой доўгі век, дык ня змог-бы адслужыцца за маю ласку, што я тады цябе пакінуў жывым. —

## МЯДЗЬВЕДЗЬ

Жнеі жалі на пасецы ля лесу. Яны пачулі раптоўны рэў мядзьведзя. Гэты рэў набліжаўся да іх. Яны ўбачылі, што зь лесу выходзіць мядзьведзь і дзіка раве. Яны з калысак пахапалі сваіх дзяцей ды наўцекача куды каторая. Там была старэнькая бабулька, якая не магла бегчы. Села яна на снопе ды чакае сьмерці.

Мядзьведзь, равучы, прыйшоў проста да бабулькі ды працягнуў да яе акрываўленую лапу. Там была вялікая рана, а ў ране вялікая стрэмка. Бабулька выдрала гэту стрэмку, рану залажыла трыпутнікавым лісьцем ды завярцела чыстай полкай. Мядзьведзь перастаў раўсьці ды, мармочучы, пайшоў у лес.

Хутка мядзьведзь зноў вярнуўся да бабулькі й прынёс ёй на карыне пасьценак мёду. Паклаў гэты мёд на сноп перад бабулькай ды, мармочучы, пайшоў назад у лес.

## КАМАРОВА СЬМЕРЦЬ

Гэй, у лесе, у гушчары
Калыхаліся камары.
Дуб да дубу пахіліўся,
Камарок з дубу зваліўся.
Гэй, пабіў камар бакі
Аб дубовыя сукі.
Гэй, пабіў камар калені
Аб дубовае карэньне.
Ляціць муха ратаваці
Зімнай вадой адліваці
— Камарочку, родны браце,
Як-жа цябе ратаваці?
— Мне нічога не паможа,
Пакідаю сьвет я божы.
— Камарочку, родны браце,
Дзе-ж нам цябе пахаваці?
— Не хавайце пры даліне,
Бо вырыюць мяне сьвіньне.
— Не хавайце край дарогі,
Бо дратаваць будуць ногі.
Пахавайце там у лесе
Пры зялёненькім гарэсе.

## КАЗЁЛ І ЛІСКА

Круцілася ліска, загледзеўшыся на курэй, ды ўвалілася ў студню. Студня была няглыбокая, дык яна не ўтапілася, але й вылезьці не магла.

Пачула ліска, што тут блізка ішоў казёл.

— Дабрыдзень, кумок! — гукае яму ліска.

— Дабрыдзень! Што там ліска робіш? —

— Адпачываю, кумок, адпачываю, галубок! Там на версе горача, а тут халадок. І вадзіцы чысьценькай, колькі хочаш! —

Казлу даўна піць хацелася, дык ён і пытае:

— Ці сапраўды там добра? —

— Ай, надта добра! Скачы сюды! —

Дурны казёл узяў і скочыў у студню.

— Ах, які ты нязґраба? І скочыць ня ўмееш. Бач, усю мяне апырскаў. Не хачу я тут быць з табой. —

Ускочыла ліска казлу на хрыбет, а пасьля на рогі ды выскачыла са студні. А казёл тут ледзь не адубеў. Балазе, гаспадар прыйшоў па ваду, убачыў казла ў студні дый выцягнуў.

## ВЕРАБЕЙ

Вось прышлі зімовы сьцюжы,
На дварэ замерзьлі лужы.
Скача, скача верабей
Ды склікае ўсіх дзяцей.

Да дзяцей ён просьбу мае,
Ён чырыкае, як знае:
— Ціў - ціў - ціў ! Ціў - ціў - ціў !
Дайце зерня, я ледзь жыў !
Есьці многа мне ня трэба.
Трохі зерня, трохі хлеба
Кіньце, дзеці, на зямлю.
Я вам песеньку сьпяю.

## ВЕРНЫ ПРЫЯЦЕЛЬ

У ваднаго селяніна быў вялікі сабака. Стаў ён стары й ня мог вартаваць гаспадаровага дабра. Не хацелася селяніну дарма карміць сабакі. Вось ён узяў вяроўку й камень ды пацягнуў сабаку да ракі.

Пазірае сабака на гаспадара сумнымі вачыма, нібы разумее, што той наважыў рабіць.

Сеў гаспадар з сабакам у човен, адплыў ад берагу, прывязаў камень да шыі сабаку ды пірганаў яго нагой у ваду. Човен пахіснуўся й селянін сам уваліўся ў раку.

Гаспадар пачаў тапіцца. Аж чуе, што нехта цягне яго да берагу. Гэта быў ягоны сабака, якога ён хацеў утапіць. Але ад шыі адвязаўся камень, і сабака пачаў ратаваць свайго гаспадара. Схапіў яго зубамі за кашулю, выплыў зь ім на бераг ды, ледзь жывы, расьцягнуўся на беразе.

Заплакаў селянін ад сораму і абняў сабаку. Ён ужо да самай сьмерці карміў і даглядаў свайго вернага прыяцеля.

## БУСЛЫ



У садочку пры дарозе,
З даўных часаў на бярозе
Буслы завяліся.
Вельмі было дарагое
Ім гняздо сваё старое —
Навек зь ім зжыліся.
Але людзі захацелі,
Каб то буслы пераселі
На другі бок саду.
Для таго слуп укапалі,
Барану прымацавалі,
Розную прыладу.
Тыя-ж буслы больш цанілі
Гняздо, што дзяды зрабілі.
Яго не зракліся.
Вельмі-ж было дарагое
Ім гняздо сваё старое —
Навек зь ім зжыліся.

## ДЗЯДУЛЬКА

Жыў старэнькі дзядулька. Ён ужо ня мог працаваць. Калі садзіўся за стол есьці, дык

ягоныя рукі трэсьліся, і страва разьлівалася на стол. Сын і нявестка пачалі яго садзіць у запечку ды налівалі страву ў благую гліняную міску. Аднаго разу ягоныя слабыя рукі ня ўтрымалі міскі. Яна звалілася на падлогу й разьбілася. Пасьля гэтага яму пачалі наліваць страву ў драўляную міску.

У дзеда быў малы ўнучак. Аднаго разу бацька й маці бачаць, што іхны малы сынок нешта майструе. Ён з нажом і долатам завіхаўся пры кавалку дрэва. Бацька ў яго й пытае:

— Што ты хочаш рабіць з гэтага дрэва? —

— Хачу зрабіць карытца. Калі вы з мамай састарэеце, дык тады я вас пасаджу ў запечку ды буду карміць з гэтага карытца,— адказаў хлопчык.

Бацька з маткай пераглянуліся: ім зрабілася сорамна й прыкра. Пасьля гэтага яны пачалі дзядульку садзіць есьці за стол ды карміць з добрай пасудзіны.

## БАЦЬКА Й СЫНЫ

Бацька меў некалькі сыноў. Ён усё навучаў іх, каб яны жылі ў згодзе. Але сыны ня слухалі бацькі.

Аднаго разу бацька прынёс венік. Даў яго дужэйшаму сыну ды сказаў пераламаць. Як не

намагаўся сын, але ня мог пераламаць веніка. Па чарзе пачалі прабаваць ламаць венік іншыя сыны. Але ніяк не маглі зламаць.

Тады бацька разьвязаў венік, даў галінкі самаму слабейшаму сыну, каб той паламаў іх. Ён лёгка паламаў усе дубчыкі.

А бацька й кажа:

Калі вы будзеце жыць у згодзе, дык ніхто ніколі вас не пераможа. А калі вы будзеце жыць кажны асобна, дык тады вас перамогуць — зломяць, як гэтыя дубчыкі.

А пасьля бацька дадаў:

— Памятайце яшчэ й тое, што згода будуе, а нязгода руйнуе. —

## ПОРЫ ГОДУ

Янкавы бацькі былі на заработках у Амэрыцы. Жылі яны ў вялікім месьце Ню Ёрку. Там нарадзіўся й Янка. Калі бацькі сабралі трохі грошы, дык вярнуліся на бацькаўшчыну ў сваю вёску.

Там яны купілі сялібку зямлі ды пачалі працаваць на ўласнай гаспадарцы. Янка апынуўся ў іншым сьвеце, сярод новых сяброў. Ён любіў прыглядацца да жыцьця й прыроды роднай краіны сваіх бацькоў.

## ЗІМА

Прыйшла зіма, Мароз закаваў рэчкі й ставы. Дзеці зь вясёлым крыкам бегаюць па лёдзе, коўзаюцца. А якія прыгожыя вузоры намаляваў мароз на ваконных шыбах!

Пасыпаў сьнег. Якія дзіўныя й прыгожыя гэтыя сьняжынкі! Яны, як зоркі. Падаюць часьцей і гусьцей, ды тоўстым пластам укрываюць зямлю. Дзеці з радасьці качаюцца па сьнегавым дыване.

У ночы зашумеў, загудзеў вецер. Ён пананосіў сувеі-гурбы. Назаўтра дзеці высыпалі на гэтыя гурбы. Яны коўзаюцца на санках, куляюцца ў сьнег, качаюцца ў ім.

Калі пад вясну прыйшла адлега, дык дзеці пачалі гуляць у вайну, кідаючы мяккія сьнежкі. Яны шмат наляпілі сьнегавых дзядоў.

— Ну, і зіма! — кажа Янка. — Якая яна здаровая й прыемная. Добра-б было, каб яна была заўсёды. —

## ВЯСНА

Сонца паднялося вышэй. Згінуў сьнег. У палявых ручайках шуміць і булькоча вада. Сенажаці й нізіны заліла паводка. Зьявіліся

матылькі й мошкі. З выраю прыляцелі птушкі й пачалі свае песьні.

Нахмурылася. Загрымеў першы гром. Пасыпаў спакойны, цёплы, спорны дождж. Ён абмыў зь зямлі смугу, што засталася пасьля сьнегу й паводкі. Зазелянелася травіца й маладая рунь. На іх, нібы срэбра, блішчыць раса.

Дрэвы ў садох, гаёх і лясох пачалі пукацца, зазелянеліся. Сады ўкрыліся белым пахнючым цьветам. Праз цэлы дзень ня сьціхае птушыны сьпеў. Сяляне высыпалі на поле. Яны, як тыя мурашкі, завіхаюцца ў працы каля зямлі.

— Ну, й вясна! — кажа Янка. — Гэтулькі красы й уцехі. Добра было-б, каб вясна была заўсёды.

## ЛЕТА

Сонца на небе стаіць высока й добра грэе. Вырасла ярына. На ейных лісткох-пёрках блішчыць крышталёвая раса. Жытнёвым полем плывуць бяспраўныя хвалі. У жыце паказаліся васількі. Сенажаці, палі й лясы аж зіхацяць разнакаляровымі краскамі.

Халадком і ягадамі вабіць лес дзяцей. А летняя гарачыня цягне іх да рэчак і ставоў. Там яны купаюцца ў сьвежай, празрыстай вадзіцы, каб асьвяжыць сваё цела.

Надыходзе час вялікай працы. Бацькі косяць і жнуць, а дзеці ім памагаюць. Як прыемна пахне сьвежае сена. Дзеці любяць спаць у гэтым пахнючым сене.

— Ну, і лета! — кажа Янка. — Гэтулькі хараства й здароўя. Добра-б было, каб гэта лета было заўсёды.

## ВОСЕНЬ

Увосень птушкі адлятаюць у вырай. Прырода рыхтуецца да сну й паволі замірае. Але й восень мае сваю красу й прыемнасьць.

На блакітным высокім небе ні хмурынкі. Лагодна сьвеціць сонца. Цёпла. У празрыстым паветры плывуць ніці-павучынкі. Яны заткалі, упрыгожылі поле й сенажаць.

Лес укрыўся жоўтым лісьцем, нібы золатам. Жарам чырванеюць рабіна й каліна. А на доле паміж пнёў сінеюць і пахнуць мёдам верасы.

Вароны, гракі, каўкі й шпакі з крыкам хма рамі носяцца ў паветры, або плоймам

укрываюць апусьцелае поле. На полі зелянее маладая рунь. На бульбяных палетках поўна сялян. Яны выбіраюць бульбу.

Бабіна лета. Гэтак нашы сяляне завуць цудоўныя цёплыя дні восені.

Восень славіцца ня толькі сваім хараством, але, й багатай уродай. Яна напоўніла гумны снапамі й сенам. Сьвірны напаўняе збожжам, а скляпы й істопкі бульбай, гароднінай ды садавіной.

— Ну й восень! — кажа Янка. — Чым-бы жывіліся цэлы год людзі, каб ня ейная багатая ўрода?

## СЬНЯЖЫНКІ

Сьняжыначкі, пушыначкі,
Як матылькі ляцелі,
Як красачкі-пралесачкі,
Над хаткамі блішчэлі.

Бялеліся, мігцеліся
У розныя калёры.
Драбнюткія, пякнюткія,
Як зоранькі, як зоры.

Насіліся, кружыліся
Над ціхімі палямі.
Сьняжыначкі даліначкі
Пакрылі дыванамі.

## НА РЭЧЦЫ ЗІМОЙ

Не сядзіцца ў хаце
Хлопчыку малому:
Кліча яго рэчка,
Цягнуць санкі з дому.
— Мамачка-галубка !
— Просіць ён так міла,
— Можа-б ты на рэчку
Пагуляць пусьціла?
Я ня буду доўга,
Зараз-жа вярнуся.
Трошачкі на рэчцы
У санках паважуся.
— Ну, ідзі пабегай,
Толькі апраніся
Ды, глядзі, ў палонку,
Сынку, не ўваліся. —

## ПРЫХОД ВЯСНЫ

Уцякай мароз-дзядуля!
Чуеш ты, стары, ці не?
На пагорках булі-гулі!
Песьні чуюцца вясьне.
Ты паслухай, дзед сярдзіты,
Што там чуецца ўгары,
Што за сьпеў за самавіты
У небе правяць песьняры!

А зіма аж пачарнела.
Годзе ёй тут кросны ткаць!
Гэй, маленства, жыва, сьмела
Выйдзем весну прывітаць!

## ПРЫВІТАНЬНЕ ВЯСНЫ

Маладая вясна,
Залатая пара!
Будзь красна і ясна,
Не шкадуй нам дабра.
Вокам маткі зірні,
Бледнасьць з твару згані.
Дай уздужаць малым
Пад павевам тваім.
Мы вяночак спляцём,
Табе песьню сьпяём.

## ВЯСКОВЫЯ ДЗЕЦІ

Пусты ўлетку нашы сёлы:
Усе на полі за сярпом,
Толькі дзетак крык вясёлы
Льлецца ў вуліцах руччом.
    Вецер кудры іх цалуе,
    Мые дождж іх бледны твар,
    Зь імі сонейка жартуе
    І цяпло ім шле, як дар.

## СУНІЦЫ

Пранеслася чутка
Па сялянскіх хатах,
Што суніц у лесе
Нарасло багата...
    А па купінах
    Каля пнёў, лам'я
    Чырвань сьпелая
    Тых суніц сям'я.
    Сакавітыя,
    Як налітыя,
    Ды ўсе ладныя
    Ды панадныя.
    У паветры пах
    Ад іх носіцца,
    Сама ягада
    У рот просіцца.

## ПРЫХОД ВОСЕНІ

Белыя валокны
Сьцелюцца над долам.
Не сьпяваюць птушкі,
Сьціхнуў лесу гоман.
    Сьцелюцца валокны,
    Тчэцца павуціна.
    Блізка, блізка восень,
    Сумная часіна.

Замірае лета,
Заціхаюць далі,
Сірацее рэчка,
Халадзеюць хвалі.

## АДЛЁТ ЖУРАВОЎ

У бязьмежным небе
Родненькім шнурочкам
Журавы на вырай
Мкнуцца над лясочкам.
Жаласна — прыгожа
Льлюцца ў небе гукі.
Слухаюць лясы іх,
Луг, балота, лукі.
Меншыцца шнурочак
У паднеб'і тае,
Вось ледзь-ледзь чарнее,
Міг — і прападае.

## СЫН І МАЦІ

*Сын:*

— Мамка, мамка, нам сягоньня
Гаманілі ў школе
Аб якойсьці Беларусі,
Што жыве на волі.
Хоць я слухаў вельмі шчыра
*(Ня люблю іначай),*

Ды ніяк ня мог уцяміць
Што ўсё гэта знача.

*Маці:*

— А вось тое, мае дзеткі,
Глянь - зірні наўкола:
Бачыш гэтыя сялібы,
Хаткі нашых сёлаў ...
А там далей, дзе ўжо вока
Дасягнуць ня можа,
Тое самае пабачыш,
А ўсё так прыгожа!...
Там плывуць Дняпро і Сожа,
Ды Дзьвіна і Нёман,
Велавежы, Налібокаў
Там чуваці гоман.
Гарады там Менск і Вільня,
Магілёў, Гародня,
І Смаленск зь сьцяной цаґланай
Разьляглі выгодна.
Аб вялікай нашай славе
Сьветчаць на сьвет цэлы,
Як жылі мы, панавалі
У родным краі сьмела.
Во ўсё гэта, мае дзеткі,
Ад межаў да межаў
Беларусяю завецца
Й да цябе належа.

*Сын:*

— А! Ужо сьцяміў! Дык багат я,
Меўшы столькі цудаў:
Гэткім чынам я ніколі
Служкаю ня буду.
Ну, але яшчэ ня ўсё тут
Ясным мне здаецца:
Што такое беларускай
Гутаркай завецца?

*Маці:*

— Ой, дурненькая варона,
Што з табой чыніці!
Як-жа йначай беларусы
Могуць гаманіці?
Як-жа мы з табой гуторым
Вось і ў гэту хвілю?
Як-жа я пяю над зыбкай
Для малой Марылі?
Ды паслухай, як на вёсцы
Кажа дзядзька, цётка;
Як пяюць улетку жнеі
За сваёй работкай?...

*Сын:*

— Ну, ўжо знаю, знаю, мамка!
Як у люстры бачу.
Пакажу я ўсяму сьвету,

Хто я ды й што значу!

## СВАІМ РОЗУМАМ

У школе на аднэй лаўцы сядзелі Пятрусь і Антось. Пятрусь быў жвавы хлопчык. Ён хутка цяміў і спрытна адказваў, аб што пытаў настаўнік. Антось быў ціхі й нясьмелы. Сьпярша падумае, пасьля павольна й паціху адкажа. А Пятрусь яму падказвае ды перашкаджае.

Аднаго разу Антось і просіць настаўніка, каб перасадзіў яго:

— Сяду я лепш на іншае месца, ато Пятрусь не дае мне падумаць, шэпча, каб я гатовае адказваў, а я хачу жыць сваім розумам. —

## ПЕРШАЯ КНІЖКА

Першы год Яначка ходзіць у школу, а ўжо навучыўся чытаць і пісаць. Прыйдзе Яначка са школы, прынясе кніжку ды чытае ўвечары. Тата й мама слухаюць, як чытае іхны сынок, ды цешацца. А Яначку так спадабаліся кніжкі, што ён і не разлучаецца зь імі.

## НАША МОВА

Гэй, ты маці, родна мова,
Гэй, ты звон вялікі, слова!
Звон магучы,
Звон бліскучы,
З срэбра літы,
З злота біты,
Загрымі ты,
Загрымі!

## ДОБРАЯ ЗОСЯ

Зося выходзіць у школу, а мама ёй кажа:

— Зоська, на табе хлеба з маслам. Як будзе вялікі перапынак у школе, дык зьясі. —

— Дзякуй, мамачка! — адказала Зося й пабегла ў школу.

Па дзьвёх лекцыях пачаўся вялікі перапынак. Зоська ўзяла свой полудзень і хацела есьці. Але тут яна ўбачыла, што ейная сяброўка Галя сядзіць сумная й зьмізарнелая, Ейныя бацькі вельмі бедныя, жылі ў нястачы.

Зосьцы стала шкада Галі. Яна разламала сваю лустачку хлеба папалам, падыйшла да Галі й дае ёй паўлустачкі дый кажа:

— Галя, на табе крыху хлеба, бо ты можа галодная. —

Галя маўчала. Зоська зразумела, што Галі прыкра браць ад яе хлеб. Тады яна сказала:

— Галя, вазьмі. Я табе даю ад шчырага сэрца.

Галя ўзяла хлеб і пачала есьці. А Зоська была рада, што памагла сваёй сяброўцы.

## ШТО ЦЁТКА НАСТАЎНІЦА КАЗАЛА

Была нядзеля. Ніхто з нас у школу не пайшоў. Але сёньня там мая мама, маці Янкі й Касі, Ганны й Антося. Бацькі пайшлі ў школу, каб пачуць ад настаўніцы, як мы вучымся.

Я ведаю, што настаўніца пахваліць нас, бо ўсе мы добра вучымся. А калі мама вярнулася, дык я ў яе адразу й пытаю:

— Што цётка настаўніца сказала пра мяне? —

А мама сьмяецца й кажа:

— Настаўніца казала, што ты вялікі гультай.

Я ведаю, што мама жартуе, але зноў пытаю:

— А ці Янка гультай? І Кася й Ганна таксама гультаі?

— Не, — кажа мама, — толькі ты гультай. — І глядзіць мяне па галаве. Я ведаю, што мама цешыцца зь мяне.

## БЕЛАРУСКАЯ ЗЯМЕЛЬКА

Беларуская зямліца
Мяне ўзгадавала.
Маці ў мове беларускай
Песьні мне сьпявала.
Гэта мова і край родны
Над усё мне мілы,
Не магу іх адцурацца
Да самай магілы.
Не магу іх адцурацца
Як рукі, як вока.
Няхай слава Беларусі
Плыве ў сьвет далёка.

## НАША БАЦЬКАЎШЧЫНА

Бацькаўшчына — гэта той край, дзе мы нарадзіліся й вырасьлі, дзе жылі нашы бацькі, дзядам й прадзеды, дзе жыве наш народ.

Наша бацькаўшчына даўней называлася ЛІТВА, а цяпер называецца БЕЛАРУСЬ.

Нашу зямлю засяляе наш народ ад найдаўнейшых часоў. Нашы прашчуры аселі

на гэтай зямлі ў той час, калі яна была неапрацаваная й дзікая. Яны сваімі рукамі, сваёй бязупыннай працай зрабілі яе ўрадлівай і багатай.

## ЗУБРЫ

На нашай бацькаўшчыне шмат лясоў. Там захаваліся яшчэ да нашых дзён дзьве вялікія пушчы: Налібокі й Белавежа. Белавеская пушча славіцца тым, што там да гэтага часу захаваліся вельмі цікавыя зьвяры: зубры, ласі, дзікі й козы. Найбольшая ўвага аддаецца зубрам. Зубр падобны да нашага быка, а зубрыца да каровы. Зубр розьніцца ад быка тым, што ён шмат большы за быка й надта дужы. Ён мае на сьпіне над лапаткамі вялікі горб, а на шыі й пад барадой доўгую поўсьць. На лобе ён мае моцныя й вострыя рогі, якімі бароніцца ад ворага й нападае на праціўніка.



## ЛЮБЛЮ НАШ КРАЙ

Люблю наш край, старонку гэту,
Дзе я радзілася, расла,
Дзе першы раз пазнала шчасьце,
Сьлязу нядолі праліла.
    Люблю народ наш беларускі
    І хаты ў зелені садоў,
    Залочаныя збожжам нівы,
    Шум нашых гаяў і лясоў.
Люблю раку, што свае воды
Імчыць ў няведамую даль,
І жоўтасьць берагоў пяшчаных,
І яснасьць чыстых яе хваль.
    І песьню родную люблю я,
    Што дзеўкі ў полі запяюць,
    А тоны голасна над нівай
    Пераліваюцца, плывуць.
Усё ў краю тым сэрцу міла,
Бо я люблю край родны свой,
Дзе зь першым шчасьцем я спазналась
І з гора першаю сьлязой.